ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 4 (2302) 28 студзеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

*1993 ГОД ЮНЕСКА АБВЯСЦІЛА ГОДАМ Сымона БУДНАГА*

## "НЕ ЗАКАПАЎ СВАЙГО ТАЛЕНТУ..."



Неўзабаве пасля таго, якназаўсёды заплюшчыліся вочы Сымона Буднага, па абшарах Вялікага Княства пайшлі гуляць неверагодныя чуткі, нібыта ён перад адыходам у нябыт прылюдна выракся свае навукі і заклікаў усіх братоў не верыць у Хрыста. Плёткі распаўсюджвалі крывадушныя ворагі Буднага, імкнучыся гэтак вераломна адпомсціць ужо нежывому асветніку за ранейшыя крыўды, зменшыць яговы аўтарытэт, а галоўнае — пасеяць зерне сумневу ў душах вучняў і паслядоўнікаў. Напэўна, хтосьці паверыў у гэтую хлусню, відаць, знайшліся і тыя, хто наогул адвярнуўся ад яго. *Толькі далёка не ўсе.* Трапяткое *і чыстае Слова Буднага,* народжанае духам дабрыні ды людскасці, глыбока пранікла ў сэрцы людзей. Яно было самой Праўдаю і таму сталася несмяротным.

Гістарычныя крыніцы даюць падставы меркаваць, што С. Будны нарадзіўся на Падляшшы ў мястэчку Буда блізу 1530 года. Пачатковую адукацыю ён хутчэй за ўсё атрымаў у Супрасльскай школе, пасля чаго працягваў навучанне ў вядомым Кракаўскім універсітэце, аб чым сведчыць запіс у метрыках за 1544 год.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ГЛУХІЯ ДЗЕЦІ Ў СЛЯПЫМ ГРАМАДСТВЕ

## ТУРМА З ЯРКІМІ ВІТРАЖАМІ

Белы снег, шэрае, нібы выцвілае неба, лёгкі туман, белы будынак, — у гэты студзеньскі дзень усё нібы зліваласл, калі я ў рэшце рэшт убачыла сярод дрэў Севастопальскага парку спецыяльную мінскую школу-інтэрнат для глухіх дзяцей. Былі канікулы, а школа без дзяцей — ужо быццам бы і не школа, тым больш, што менавіта гэты будынак ніяк не адпавядае прывычным уяўленням аб навучальнай установе: яркія вітражы на вокнах, дзякуючы якім унутры сонечна нават у пахмурны дзень, незвычайная архітэктура і малюнкі на сценах , тыя самыя малюнкі глухіх дзяцей, дзеля якіх я сюды і прыйшла. Размаўляю з настаўнікам малявання Дзмітрыем Ярмілавым:

— Дзмітрый, больш за ўсё ў малюнках вашых вучняў здзіўляе нестандартнасць — у выбары тэм, форм, фарбаў. У чым прычыны такога не ўласцівага дзецям погляду на жыццё, акружаючую рэчаіснасць?

— Дзіця малюе тое, што яму нехта ўжо паказаў. Напрыклад, намалявалі некалі бацькі дом ці дрэва, вось яно і паўтарае. Але гэта — не дом і не дрэва, а толькі схемы названых прадметаў. Прасцей кажучы, штампы. У нашым жыцці наогул існуе цэлая сістэма штампаў, якую мы самі, таго не заўважаючы, распрацавалі, каб было больш зручна жыць. Гэта самы просты, але не самы карысны шлях, таму што мастацтва жывапісу вельмі разнастайнае, і за гісторыю чалавецтва было створана шмат напрамкаў, стыляў і школ, і я хачу, каб дзіця далучылася да ўсёй шматграннасці свету мастацтва, каб пасля гэтага абраць тое, што будзе яму блізка.

— А дзе шукаць ключ да развіцця дзіцячай фантазіі?

— Фантазіі ў іх і так хапае, трэба думаць, як не згубіць тое, што ёсць... Аднойчы да мяне прыйшла маці вучня і расказала, што яе сын раскачваў пластылін на падаконніку, а потым возіць па ім машынкі, вельмі ўважліва разглядаючы сляды, якія пасля гэтага застаюцца. "Што рабіць?" — спытала яна. — "Канешне, падаконніка шкада, — сказаў я. — Але для яго пазнаць свет у многа разоў важней, чым навучыцца па схеме ўзнаўляць нейкі прадмет". Часам я бяру на сябе смеласць адчуць, што хацела б зрабіць дзіця ў пэўнай рабоце. Я магу нешта падказаць, зыходзячы з уласнага вопыту, але ідэя, сэнс малюнка належыць толькі вучню. Для мяне не важна, колькі малюнкаў зробіць дзіця за ўрок, можа і аднаго не атрымаецца. Але я буду бачыць,

(Заканчэнне на 5-й стар.).

НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ "НАРОДНЫЯ ПАЯСЫ — МАСТАЦТВА І РАМЯСТВО"

## ЗЁЛКІ АД БЯСПАМЯЦТВА

Яшчэ помняцца пышныя выставы з мноствам экспанатаў з дрэва, саломкі, гліны, разнастайнае ткацтва. Ладзіліся на іх сустрэчы навукоўцаў-даследчыкаў з майстрамі-практыкамі. Штосьці даўно не было такіх рэспубліканскіх аглядаў народнай творчасці, але хочацца спадзявацца, што гэта не сведчыць аб заняпадзе рамёстваў, што крынічка, якая жывіла і жывіць самабытныя таленты, не перасохла, што, як і раней, сілкуецца яна нябачнымі воку, ніколі не перасыхаючымі чыстымі ключамі.

Не так даўно ў Мінску адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Народныя паясы — мастацтва і рамяство". У ёй прымалі ўдзел вядомыя беларускія мастацтвазнаўцы, навукоўцы, музейныя работнікі. І не толькі з Беларусі, а і з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Вільні, Кіева, іншых месцаў.

Прадметам жа даследавання і абмеркавання была толькі адна частачка адзення — пояс. Хацелася б думаць, што адраджэнне не абыдзе і народную творчасць, што названая канферэнцыя толькі пачатак планамернай і паслядоўнай работы па вывучэнню, захаванню і развіццю нацыянальных традыцый як у ткацтве, так і ў іншых відах прыкладнога мастацтва.

"Наша канферэнцыя была задумана ў рэчышчы адраджэння, — сказаў кандыдат мастацтвазнаўства Міхась Раманюк. — Падобныя мерапрыемствы — гэта зёлкі, якімі мы лечым хворае на бяспамяцтва грамадства".

(Заканчэнне на 7-й стар.).



Здымак Віктара СТАВЕРА зроблены на Белай дачы ў Мінску, дзе цэлы месяц экспанавалася выстава беларускіх паясоў, даўнейшых і сучасных.

## "КАНСТАНТА" — ПРАДПРЫЕМСТВА ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

# НАЙПЕРШЫ КЛОПАТ — ПРА ПАКУПНІКА





Пра гэта малое прадпрыемства я ўжо чуў. Казалі, знайшоўся дзівак-чалавек у Барысаве, які кінуў пальчатку буйным прадпрыемствам: абяцаў выпускаць трыкатажныя вырабы не горшыя за дзяржаўныя. "Малады яшчэ, гарачы, — паблажліва казалі вопытныя спецыялісты, — возьмецца за справу, і запалу паменшае. Пасля першай перашкоды сядзе яго карабель-мара на рыф. Лепей бы ўзяўся нешта перапрадаваць, як многія робяць, што вырашылі стаць бізнесменамі".

Але не такі Канстанцін Сімановіч. Ад мары сваёй не адмовіўся. За справу ўзяўся горача. Пакінуў "цёплае месца" начальніка аддзела капітальнага будаўніцтва Барысаўскай швейнай фабрыкі і арганізаваў у 1991-м годзе малое прадпрыемства, якое стала выпускаць спартыўныя касцюмы, жакеты, джэмперы і іншыя вырабы.

— Заўважце, — падкрэсліў пры сустрэчы са мной Канстанцін Пятровіч, — мы пастаянна мяняем наш асартымент: выпусцілі партыю вырабаў не болей 20—25 адзінак і адразу пераходзім да новай мадэлі. Прычым з высокай гарантыяй якасці. Практычна не было выпадку, каб нехта паскардзіўся на нас...

Якія тут скаргі! У гэтым жа невялікім будынку, дзе размешчана "Канстанта", ёсць магазін. Тут і рэалізоўвае частку сваіх вырабаў гэта прадпрыемства. Ад пакупнікоў, як кажуць, няма адбою. Сам стаў сведкам чаргі, якая сабралася ў час абедзеннага перапынку.

Пакуль у "Канстанце" быў перапынак, падышоў да той чаргі. У маладой жанчыны спытаўся:

— Чаму вырашылі прыйсці менавіта сюды, а не ва універмаг, там жа большы выбар?

Мая субяседніца, мінчанка Ніна Маскалёва, прыехала ў госці да сястры. Захацела "на перыферыі" купіць нешта моднае. Сястра параіла зазірнуць у "Канстанту". Казала, што гэта прадпрыемства ведаюць у Барысаве ўсе.

— Прыязджаю сюды не першы раз, — кажа Ніна Маскалёва. — Спадабаўся джэмпер. Хацела купіць, а такіх больш не выпускаюць. Затое прапанавалі новую мадэль. Спадзяюся яе набыць, калі не сёння, дык яшчэ некалькі разоў прыеду.

— Навошта крыўдзіце пакупнікоў, — жартую я, задаючы пытанне дырэктару "Канстанты" Канстанціну Сімановічу. — "Штампавалі" б старыя мадэлі, пакуль попыт не зменшыцца. Вам жа лягчэй: руку набілі, адладзілі вытворчасць, працей з сыравінай.

— Мяняць мадэлі — наш галоўны прынцып. Мы не баімся, што ў нас не хопіць пакупнікоў на старыя мадэлі. Але не хочам, каб людзі хадзілі ў аднолькавым адзенні.

Дарэчы, вы, напэўна, не ведаеце, што на нашу прадукцыю паступаюць заяўкі з многіх гандлёвых прадпрыемстваў рэспублікі і з-за мяжы. Прыязджаў нават з ЗША прадстаўнік фірмы "Містэр S". Ён выказаў жаданне набыць усе мадэлі адзення з ільну.

Прашу Канстанціна Пятровіча расказаць пра сваё прадпрыемства. Той ахвотна згаджаецца, нават прапаноўвае зрабіць экскурсію.

Памяшканне невялікае, цесна. Але гэта часова.

— На ўскраіне Барысава будзе пабудаваны для нас новы корпус, — тлумачыць Канстанцін Пятровіч. — Цяпер жа няма дзе разварнуцца. Закупілі абсталяванне, айчыннае і замежнае, а яго няма дзе паставіць.

— І наколькі плануеце расшырыць сваё прадпрыемства? — пытаюся ў дырэктара "Канстанты".

— Прынцып малой фірмы мы захаваем, — гаворыць Сімановіч. — Калі цяпер у нас працуюць крыху больш трыццаці чалавек, то потым будзе каля пяцідзесяці. Мы не ставім сваёй мэтай стварыць буйное прадпрыемства, тым больш складаць каму-небудзь канкурэнцыю ў кольквасных вымярэннях. Паўтаруся, што толькі ў адным нікому не ўступім — у якасці.

Ствараць добрыя вырабы, абнаўляць мадэлі патрэбны вопытныя спецыялісты. Адкуль яны ў "Канстанты"?

— Мяне ніхто не можа папракнуць, што я пераманіў вопытныя кадры, — кажа Канстанцін Пятровіч. — У фірме працуюць добра знаёмыя мне людзі. Першай вязальшчыцай, напрыклад, стала ў нас Валянціна Вязовіч. Раней яна працавала на камбінаце прыкладнога мастацтва. Пайшла на пенсію. Пасля я запрасіў яе да сябе. І не памыліўся. Вялікі вопыт Валянціны Мікалаеўны вельмі спатрэбіўся. Яна і сама выдатна працуе, і маладыя кадры рыхтуе, бо спецыялістаў мы гадуем самі.

— А што вас прывяло ў "Канстанту"? — пытаюся ў мастака-мадэльера Аляксандра Кукоўскага. — Тут можна шмат зарабіць?

— Не ў гэтым справа. Не ведаю, як будзе далей, але цяпер заробак наш не вышэйшы за сярэдні, што на дзяржаўных прадпрыемствах Барысава. Я ахвотна згадзіўся перайсці ў "Канстанту" таму, што бачыў перспектыву для творчай работы. Цяпер тут працую над узорамі ўпрыгажэнняў (брошкі, каралі і іншае) да вырабаў фірмы. Заадно з'явілася больш часу для хобі. З дзіцячых гадоў захапляўся аднаўленнем абмундзіроўкі (сам і шыю) гусараў, драгунаў 1812-га года. Даводзіцца шмат корпацца ў старых кнігах, ездзіць па музеях, кансультавацца і абменьвацца думкамі з такімі ж аматарамі даўніны... Усё гэта вельмі цікава. Менавіта работа ў "Канстанце" і дае магчымасць займацца і справамі вытворчасці фірмы, і захапленнем.

Дарэчы, надзяўна ў Барысаве на святкаванні 180-годдзя перамогі над войскамі Напалеона Аляксандр Уладзіміравіч прадэманстраваў сваё захапленне ў поўнай меры: мундзір зухаватага гусара рускай арміі мінулага стагоддзя вельмі пасаваў яму.

Вязовіч, Кукоўскі — барысаўчане, людзі мясцовыя. А вось што прымусіла вядучага мадэльера Масквы Ніну Марголіну прыехаць сюды?

— Не прыехаць, а прыязджаць недзе адзін раз у квартал, — папраўляе мяне Ніна Львоўна. — З Беларуссю мяне звязвае трыццацігадовая дружба. Ваша рэспубліка і сур'ёзны дзелавы партнёр, і гасцінная зямля.

Супрацоўнічаць з "Канстантай", асабіста з дырэктарам Канстанцінам Сімановічам вельмі прыемна. Тут працуюць аднадумцы, людзі, якія разумеюць цябе. "Прывязу" з Масквы ці з камандзіроўкі ў далёкае замежжа новую мадэль, прапаную фірме, а супрацоўнікі яе могуць і нешта сваё ўнесці. Гэта ж выдатна, калі працуеш па прынцыпу: адна галава добра, а дзве — яшчэ лепей.

Нам пашанцавала ўбачыць, як Ніна Марголіна дэманстравала новыя мадэлі, наладзіла выстаўку новых вырабаў. Не будзем раскрываць сакрэты фірмы, але кожны з нас, несумненна, хацеў бы нешта набыць для сябе ці зрабіць падарункі з гэтых навінак блізкім людзям.

Падкупіла атмасфера, у якой праходзіў паказ новых мадэляў. Прысутнічаў увесь калектыў малога прадпрыемства, кожны выказваў свае заўвагі, пажаданні, часам вяліся дыскусіі. Напрыклад, узор, сама мадэль прымаліся, але вялася спрэчка наконт колеру, часам — сыравіны.

— Ці ж заўжды ў вас такая атмасфера? — спытаўся я ў Канстанціна Пятровіча.

Той пачаў здалёк.

— Я стараўся стварыць калектыў аднадумцаў, — адказаў Сімановіч. — Але ні ў якім разе не хацеў падабраць для працы паслухмяных, згаворлівых людзей. Сёння абмеркаванне новых мадэляў праходзіла даволі спакойна. Здараецца, і мне нешта не падабаецца...

— І тады вы накладваеце сваё "вета"? — перабіваю дырэктара.

— У тым і справа, што не. Вырашаем калектыўна, я прыслухоўваюся да думкі людзей. Галоўны тут суддзя — рынак. Пайшлі нарасхват джэмпер, касцюм, сукенка, значыць, калектыў прыняў правільнае рашэнне. Аб якім дыктаце можа ісці гаворка!

Адзенне "Канстанты" я некалі бачыў у адным з магазінаў Мінска. Яго нельга было зблытаць з іншымі вырабамі, бо тут і арыгінальная этыкетка, і фірменныя гузікі... Але перад сваёй камандзіроўкай вырабаў "Канстанты" я не знайшоў. Можа разабралі, тым больш, што прадпрыемства невялікае і выпускае адносна мала прадукцыі.

Прычына аказалася не ў гэтым. Доўга круцілася на языку пытанне: вырабы прыгожыя, кідкія, адпавядаюць часу, але ці не дорага каштуюць? Пытанне адпала само сабой, калі зазірнуў у фірменны магазін "Канстанты". Магу з упэўненасцю сцвярджаць, што вырабы гэтага прадпрыемства таннейшыя за іншыя. Канстанцін Пятровіч растлумачыў, чаму зніклі фірменныя вырабы з магазінаў Мінска:

— Зроблена гэта спецыяльна. Кожны магазін набаўляе на тавары пэўны працэнт да фактычнага іх кошту. Мы ж ставім сваёй мэтай не толькі выпускаць добрую прадукцыю, але і танней яе рэалізоўваць. Так што прадаваць будзем толькі ў сваім фірменным магазіне.

Мала верагодна, што ў бліжэйшы час з'явяцца ў нас і канкурэнты, — лічыць Канстанцін Сімановіч. — Гэта на першы погляд здаецца, што лёгка арганізаваць маленькую фірму. А паспрабуйце прыкінуць і падлічыць, колькі сіл, сродкаў было затрачана, каб выбіць памяшканне, знайсці пастаўшчыкоў (і не абы-якіх, а надзейных партнёраў) сыравіны, набыць абсталяванне... і, вядома, падабраць кадры.

— А ці "не наб'е аскоміну" і пакупнікам, і работнікам фірмы ваша прадукцыя?

— Лічу, што такімі сіламі і сродкамі, якія ёсць у нас, няцяжка манеўрыраваць у пакупніцкім попыце. Добра, няхай упадзе попыт на нашы трыкатажныя спартыўныя касцюмы, жаночыя і мужчынскія жакеты, сукенкі. Мы без асаблівых цяжкасцей пяройдзем на выпуск дзіцячага трыкатажу.

Натуральна, узнікне на падставе сказанага пытанне: а чаму цяпер мы быццам бы забыліся пра юных барысаўчан? Не лічыце мяне нясціплым, толькі зразумейце правільна: пакуль нельга. На арганізацыю фірмы, на тое, каб яна стала функцыяніраваць, патрэбны былі немалыя грошы. Адразу выпускаць дзіцячы асартымент пакуль нявыгадна. Сумленне не дазваляе на вырабы для дзяцей устанаўліваць высокую цану. І я сёння кажу: дайце нам стаць на ногі. Пройдзе колькі часу, і ніхто не кіне ў наш бок папрок наконт дарагавізны. Тут я ўжо поўнасцю раскрываю свае карты і падкрэсліваю, што перш за ўсё "Канстанта" дбае аб сваіх кліентах і не шукае вялікай выгады для сябе.

Добрыя намеры. Больш бы нам такіх малых прадпрыемстваў, якія дбаюць у першую чаргу аб сваіх пакупніках.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**




**НА ЗДЫМКАХ:** **вязальшчыца Валянціна ВЯЗОВІЧ; есць ідэя, і яе трэба абмеркаваць. Канструктар-мадэльер Ніна МАРГОЛІНА, тэхнолаг Зоя СІМАНОВІЧ, мастак-мадэльер Аляксандр КУКОЎСКІ (злева направа) і вязальшчыца Ірына АФОНІНА наладзілі вытворчы савет; у фірменным магазіне "Канстанта" можна купіць не толькі вырабы аднайменнага прадпрыемства, але і гадзіннікі, кераміку, ніткі, цыгарэты, манікюрныя наборы і многае іншае.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ПЕРАД ФОРУМАМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

# БАЦЬКАЎШЧЫНА І ДЫЯСПАРА: ЭВАЛЮЦЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІН І СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Не паглыбляючыся далей у канкрэтныя праявы дзяржаўнай палітыкі, можна вызначыць яе сутнасць: ізаляцыя замежных суайчыннікаў ад Бацькаўшчыны, раскол па ідэалагічных адзнаках розных пакаленняў, плыняў эміграцыі, проціпастаўленне "прагрэсіўных" і "нацыяналістычных" арганізацый. Пры гэтым, у дзяржаве, дзе існавала манаполія на ўладу адной партыі і яе ідэалогіі, нацыянальныя праблемы лічыліся вырашанымі, а іншадумства жорстка выкаранялася, да "нацыяналістычных" адносіліся арганізацыі нацыянальна-свядомай, палітычнай эміграцыі, якія крытычны ставіліся да савецкага ладу ці не прымалі яго, выступалі за незалежнасць Беларусі. Менавіта яны насуперак штучнай адлучанасці ад роднай зямлі ў гады, калі на Бацькаўшчыне заахвочваўся і пашыраўся нацыянальны нігілізм, далі прыклады арганізацыі грамадска-культурнага, рэлігійнага жыцця на нацыянальнай аснове, сцвярджэння беларусаў ў свеце ў якасці самастойнай этнічнай супольнасці.

Часткова гэтым можна вытлумачыць непрымірымасць, жорсткасць у адносінах да палітычнай эміграцыі практычна ўсе пасляваенныя гады. Калі ва ўмовах палітыкі НЭПа і беларусізацыі савецкая ўлада ўжо на 6-м годзе пасля рэвалюцыі зрабіла захады да прымірэння з палітычнай эміграцыяй праз амністыю 1923 года, то пасля другой сусветнай вайны вельмі абмежаваная амністыя ў ліпені 1945 года і запозненая па часе, абстаўленая ўмовамі амністыя 1955 года не распаўсюджваліся на палітычную эміграцыю. Яе лёс не асэнсоўваўся ў кантэксце трагедыі беларускага народа, які стаў ахвярай не толькі фашысцкага нашэсця, але і палітыкі сталінскай таталітарнай сістэмы.

Палітыка ізаляванасці соцень тысяч эмігрантаў, грэбавання нацыянальна-культурнымі патрэбамі суродзічаў на абсягах Саюза не запавольвала працэсаў іх асіміляцыі, не спрыяла повязі розных пакаленняў беларускага замежжа, а значыць і кансалідацыі нацыі.

Працэсы дэмакратызацыі, нацыянальнага адраджэння, палітычныя і эканамічныя рэформы пасля красавіка 1985 года стварылі ўмовы для пераасэнсавання ролі дыяспары ў жыцці народа, фарміравання прынцыпова новай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да яе. Хаця можна адзначыць запозненасць гэтых працэсаў у нас у параўнанні з суседзямі, запозненасць гэта абумоўлена глыбокімі працэсамі дэнацыяналізацыі, нацыянальным нігілізмам партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва Беларусі. Напрыканцы 80-х гадоў новыя грамадскія рухі і фарміраванні (БНФ, ТБМ і інш.) сталі ініцыятарамі ўсталявання сталых стасункаў з нацыянальнымі арганізацыямі беларускай эміграцыі, а таксама суполкамі, таварыствамі, якія ў гэты час паявіліся на абшарах Саюза. Гэта быў час значна шырэйшых жывых кантактаў з замежнымі суродзічамі, прадстаўнікамі нацыянальнай эміграцыі, больш акрэсленага асэнсавання сваёй лучнасці з ёю як часткай народа.

Але істотныя змены на дзяржаўным узроўні ў адносінах да ўсёй дыяспары пачаліся толькі пасля прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце (ліпень 1990 года), а рашучы паварот — пасля правалу спробы путчу і надання Дэкларацыі канстытуцыйнага статуса. Праявамі гэтага сталі першыя непасрэдныя кантакты замежных суродзічаў з кіраўнікамі рэспублікі, практычныя меры па азнаямленню грамадскасці з культурнымі набыткамі эміграцыі, стварэнне і пачатак працы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", першыя крокі па супольнаму вызначэнню сфер узаемадзеяння, у тым ліку і падчас знаходжання ў ЗША і Францыі (1991, 1992 гады) дэпутатаў ад апазіцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі па запрашэнню беларускіх нацыянальных арганізацый. З улікам міжнароднага вопыту пачаўся працэс заканадаўчага замацавання правоў замежных суродзічаў і тых беларускіх грамадзян, якія жывуць паза яе тэрыторыяй (Закон аб грамадзянстве, Закон аб мовах).

Упершыню дзяржава пачала вырашаць пытанні забяспечвання суродзічам у краінах іх пражывання ўмоў для свабоднага развіцця роднай мовы, культуры, выканання рэлігійных абрадаў у дэкларацыях аб прынцыпах добрасуседскіх адносін з Польшчай і Літвой, у Пагадненні аб стварэнні Садружнасці незалежных дзяржаў ужо адчуваюцца гэтыя новыя павевы, відаць пэўная апека дзяржавы над сваімі замежнымі суайчыннікамі.

Прынятыя рэспублікай законы, якія адкрываюць шлях для развіцця рыначнай эканомікі (у тым ліку аб асновах знешнеэканамічнай дзейнасці, замежных інвестыцыях і інш.), закладваюць асновы партнёрства дзелавых колаў беларускага бізнесу і дыяспары.

Практыка сведчыць аб несумненных пазітыўных зрухах, але сёння было б занадта аптымістычным гаварыць аб наяўнасці адпаведнай заканадаўчай базы і цэласнай сістэмы ўзаемадзенння з дыяспарай. Гэту базу трэба пашыраць, а сістэму яшчэ ствараць, бо час і патрэбы нацыянальнага адраджэння ставяць задачу кардынальна новых маштабаў супрацоўніцтва дыяспары і Бацькаўшчыны. Мэтай гэтай сістэмы павінна стаць мацаванне духоўнай сувязі з зарубежнымі суродзічамі, кансалідацыя нацыі супольнымі высілкамі тых, хто жыве на Бацькаўшчыне і за яе межамі, праз асэнсаванне агульнанацыянальных задач, усведамленне цэласнасці беларускага народа ў свеце. Дарэчы, у параўнанні з суседзямі рэспубліка спазняецца ў стварэнні рэальных прававых, фінансава-эканамічных асноў для ўсталявання грунтоўных узаемасувязей. Таксама, як і ў практычных дзеяннях па ўмацаванню сувязей з дыяспарай. Тут дарэчы будзе прыгадаць Кангрэс украінцаў з усіх рэспублік у маі 1991 года і ўсяго свету — у жніўні 1992 года, з'езд прадстаўнікоў рускай эміграцыі ў жніўні 1991 года і сусветную сустрэчу дзелавых людзей Расіі, што адбылася летась. Хочацца спадзявацца, што моцным імпульсам для паяднання беларусаў у свеце стане ўсебеларускі форум, які мае адбыцца ў ліпені 1993 года.

На маштабы ўзаемадзеяння з беларускім замежжам уплывае і адсутнасць у органах выканаўчай улады структур, якія б займаліся справамі эміграцыі-іміграцыі, каардынацыяй усёй дзейнасці з замежнымі суайчыннікамі, задавальненнем іх нацыянальна-культурных інтарэсаў і абаронай законных правоў, аб чым Беларусь дэкляравала ў прынятых законах.

Недасканаласць заканадаўчай базы абмяжоўвае гуманітарныя, эканамічныя і іншыя сувязі, у прыватнасці — адсутнасць закона аб уездзе-выездзе, нявызначанасць статуса замежнага грамадзяніна ў Беларусі і беларускага — у новых незалежных дзяржавах на абшарах былога Саюза. Для вырашэння праблем суайчыннікаў, што жывуць у супольнасці незалежных дзяржаў, наспела патрэба замацоўваць у новых міждзяржаўных дагаворах іх правы, менавіта на падставе міжурадавых пагадненняў абараняць інтарэсы як суродзічаў, так і грамадзян Беларусі, якія жывуць за мяжой.

Праблемы ўзаемаадносін Бацькаўшчыны і дыяспары — гэта і недастатковая гнуткасць заканадаўства, якое рэгулюе знешнеэканамічныя адносіны (у прыватнасці, недастатковая гарантаванасць замежнага капіталу, адсутнасць прававога рэгулявання вытворчай і тэхнічнай каапераныі).

Мажлівасці і складанасці ў дапамозе Бацькаўшчыне з боку заходняй дыяспары вынікаюць і з асаблівасцей унутранага яе жыцця, палажэння ў краінах пражывання, у прыватнасці, з таго, што беларуская эміграцыя (як слушна зазначыў палітолаг Леанід Лойка) не такая ўплывовая на Захадзе, як яўрэйская, не такая кансалідаваная, як армянская, не такая актыўная, як польская.

Заходняя дыяспара, нацыянальна-свядомая частка якой усе пасляваенныя гады была апазіцыяй таталітарнай сістэме, афіцыйнай уладзе БССР, толькі цяпер набывае пазітыўны вопыт, шукае шляхі ўзаемадзеяння з Бацькаўшчынай, выкарыстання яе патэнцыялу для паскарэння нацыянальнага адраджэння, змякчэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы, садзейнічання выхаду Беларусі як суверэннай дзяржавы на міжнародную арэну і сусветны рынак.

Толькі добры дзяржаўны ўзровень усёй працы з замежнымі суродзічамі, спалучэнне ў ёй дзяржаўнага і грамадскага пачаткаў, нацыянальная аснова культурнага, духоўнага ўзаемадзеяння з дыяспарай будуць садзейнічаць павелічэнню яе ролі ў нацыянальна-культурным, эканамічным развіцці Бацькаўшчыны, усталяванні супрацоўніцтва Беларусі з замежнымі дзяржавамі, запавольванню працэсаў асіміляцыі, павелічэнню культурнай і іншай прысутнасці ў свеце беларускай замежнай супольнасці.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

Заканчэнне. Пачатак у № 3.

# УВАГА: ЯШЧЭ РАЗ ПРА ПАДПІСКУ!

Газэту "Голас Радзімы" я пачаў атрымоўваць, калі яна мела назоў "За вяртанне на Радзіму". Чамусьці цяпер, калі паўстала нібы незалежная Беларусь, газэта перастала даходзіць. Безумоўна, я хацеў бы мець "Голас Радзімы", а тым больш, што яна цяпер стала зусім добрай газэтай, чым раней ніколі не магла пахваліцца.

Шчыра хацеў бы прасіць таго спадара, хто адказны за кальпартаж газэты: як і што трэба рабіць, каб атрымоўваць газэту. Належную плату я мог бы зрабіць пры помачы сваіх крэўных, якіх я маю ў горадзе Менску. Кепска, што ў газэце не падана цана падпіскі для падпісчыкаў з заграніцы. Спадзяюся на той ці іншы пазытыўны адказ.

З нагоды надыходзячых сьвятаў Каляд і Новага 1993 года перасылаю ўсім працаўніком "Голасу Радзімы" найлепшыя свае пажаданьні — добрага здароўя і добрых удачаў у такой карыснай галіне ў жыцьці-быцьці нашай Беларусі.

З вялікай пашанай

**Віталь КАЖАН.**

ЗША.

**АД РЭДАКЦЫІ. Такія лісты далёка не адзінкавыя ў нашай рэдакцыйнай пошце. У незалежнай Беларусі, якая толькі пачынае адбудоўваць сваю дзяржаўнасць, шмат праблем. Адна з іх — падпіска на беларускія выданні ў замежжы. Тут яшчэ многа чаго трэба ўсталёўваць.**

**Аднак мы ўжо можам параіць замежным суайчыннікам наступнае. Каб падпісацца на "Голас Радзімы", шукайце ў краінах свайго пражывання агентаў і фірмы "Международной книги". (На жаль, да гэтага часу мы не атрымалі з Масквы абяцаныя замежныя адрасы гэтай установы). Ведаем, што гэты шлях часта безвыніковы. Таму прапануем нашым землякам: плату за гадавую падпіску 58 долараў ЗША чэкам альбо грашовым пераводам накіроўваць на адрас: Беларусь, 220600, г.Мінск, вул. Заслаўская, 10, разліковы рахунак N 060070063 у Белзнешэканомбанку, з паметкай "За падпіску на "Голас Радзімы".**

**Аб пераводзе грошай абавязкова паведаміце ў рэдакцыю.**



Пасля Чарнобыля.

Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.

# ЧАРГОВЫ МІФ

Ох, і любяць жа ў нас ствараць міфы! У апошні час сёй-той імкнецца стварыць міф і пра нашу эміграцыю. Некаторыя дагаварыліся да таго, быццам толькі эміграцыя захавала чысціню нашай мовы, толькі яна здатна адрадзіць яе, вярнуць на Бацькаўшчыну...

Чытаеш такое і — толькі рукамі разводзіш. Аддаючы належнае тым, хто, жывучы на чужыне, не выракся роднай мовы, мушу заўважыць: літаратурнай мовай там, за межамі Беларусі, валодаюць толькі лічаныя асобы. Ды і тыя ў большасці не навучылі ёй сваіх дзяцей. Пра ўнукаў нават і размовы няма — яны амаль усе сталі англічанамі, амерыканцамі, французамі... Так што пра зварот іх на Радзіму сваіх бацькоў, дзядоў — слабая надзея. І калі беларуская мова і ажыве на Беларусі, дык не дзякуючы эміграцыі, а дзякуючы Янку Купалу, Якубу Коласу, Максіму Багдановічу, Алесю Гаруну, Максіму Гарэцкаму... Ды і тым, хто не цураўся яе, размаўляў, пісаў на ёй у самыя неспрыяльныя часы, хто, нягледзячы ні на што, нікуды не з'язджаў, не пакідаў роднай зямлі, жыў, працаваў на ёй, вучыў сваёй мове дзяцей, унукаў... Ды і абараняў роднае слова пры кожным зручным і нязручным выпадку...

І калі кланяцца каму, дык давайце паклонімся народу свайму, лепшым сынам яго, якія, на наша шчасце, заўсёды ў нас былі і ёсць.

**Барыс САЧАНКА.**

# ТУРМА З ЯРКІМІ ВІТРАЖАМІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

што яно нешта робіць, а значыць, пазнае свет. У агульнаадукацыйных жа школах усё навучанне зарыентавана на канчатковы вынік, а самае цікавае якраз і заключана ў адрэзку паміж заданнем і яго выкананнем. На жаль, уся сістэма адукацыі накіравана на тое, каб навучыць дзіця карыстацца схемай, а не шукаць уласных шляхоў вырашэння задач і дасягнення мэты. Потым гэта адбіваецца і на далейшым жыцці... Як некалі было сказана: прыходзіць настаўнік на ўрок з адным збанам, а выходзіць з сарака збанамі пад пахай. А ці патрэбны такі ўрок увогуле? Неяк традыцыйна склалася ў школе, што такія, я б сказаў, жыццёва важныя эстэтычныя дысцыпліны, як музыка, спевы, маляванне, заўсёды былі і застаюцца другараднымі.

Як гэта ні сумна, але з узростам разумееш, што ў рэальнасці цудаў не бывае. Мабыць, гэта самае цяжкае з усіх расчараванняў, якія чакаюць нас, таму што цягнецца яно ўсё жыццё. Ёсць толькі адзін спосаб супрацьстаяць яму: навучыцца бачыць яркія фарбы ў шэрай паўсядзённасці, знаходзіць цудоўнае ў звычайным і прывычным, пачуць дзіўную і сціскаючую сэрца ноту ў вулічным шуме... Думаю, менавіта пра гэта трэба ўспомніць сёння ўсім нам... Але як успомніць тое, чаго ніколі не ведаў? З дня на дзень нас вучылі ў школе "англійскай са слоўнікам", закону Бойля-Марыёта, які сёння наўрад ці хто з нас зможа паўтарыць, матэматыцы... На жаль, большасць з нас ведае яе роўна настолькі, каб падлічыць грошы ў кішэні.

Некалі Леў Талстой заўважыў, што галоўная мэта мастацтва — прымусіць чалавека хацець жыць, і, зразумеўшы гэта, сёння мы звяртаемся да душы, каб выратаваць розум. Але, здаецца, што, адсунуўшы на другі план урокі цудоўнага, школа паставіла сваіх выхаванцаў у становішча людзей, якія знайшлі ў доме, дзе пажар, вогнетушыцель, але не ведаюць, як ім карыстацца.

І зноў пытанне да Дзмітрыя Ярмілава:

— Якая будучыня чакае вашых выхаванцаў?

— Калі гаварыць шчыра, дык мы выпускаем танную працоўную сілу для цяжкіх вытворчасцей. Выходзячы са школы, нашы выхаванцы адразу ідуць працаваць, прычым, часам туды, куды іх браць проста не маюць права і куды нармальны чалавек сам не пойдзе. Але там яны могуць больш зарабіць, значыць, і пенсія будзе большай. Для іх таксама пабудавана свая схема, і загадзя вядома арбіта, па якой яны будуць круціцца ўсё жыццё, не робячы ні кроку ні ўлева, ні ўправа. Паўсюль у свеце такія дзеці, як нашы, вучацца сярод нармальных дзяцей. Тады яны не замыкаюцца ў сваім асяроддзі, для іх пашыраецца свет, яны ведаюць, да чаго імкнуцца, на што раўняцца, і зусім па-іншаму да іх ставяцца здаровыя дзеці. А ў нас атрымліваецца зона, прыгожая, прасторная, сучасная турма з яркімі вітражамі. Мы іх адгароджваем ад нармальнага жыцця.

Якое першае адчуванне ў чалавека, што бачыць глухога ці інваліда? У яго сціскаецца сэрца. Аднак, прарабіўшы ў гэтай сістэме шмат гадоў, магу з упэўненасцю сказаць: адрываючы ад сябе гэтых людзей, грамадства наносіць сабе ж непапраўную шкоду, бо само выхоўвае ў іх комплекс чалавека-ахвяры, прывучае жыць на падачкі. Сярод "сваіх" нашы вучні — і ўвогуле глухія — адчуваюць сябе дастаткова камфортна, астатні ж свет, які ў лепшым выпадку не звяртае на іх увагі, часам падаецца ім варожым. Калі ў глухога — не маленькага! — а ўжо амаль дарослага чалавека — запытаеш, якім бы ён хацеў бачыць свайго ўласнага сына — глухім ці не? — ён адказвае: глухім...

Калі я пачула гэтыя словы, прызнаюся, мне стала страшна. Як жа так, думала я, калі бацькі разумеюць, што жыццё іх было цяжкім і незайздросным, ці не натуральна для іх сваім дзецям жадаць шчаслівага лёсу? А потым зразумела... Часам нават бацькі і дзеці, якія аднолькава добра чуюць, не могуць знайсці паміж сабой агульнай мовы. Якая ж тады бездань можа раскрыцца паміж роднымі людзьмі, якім так ніколі і не будзе дадзена пачуць адзін аднаго? У глухіх — свой свет, трывала і надзейна адгароджаны ад нашага сцяной непранікальнай цішыні. І мы, тыя, каго яны называюць "гаворачыя", можам трапіць у яго толькі, калі яны самі захочуць нас туды пусціць. Так, гэта нам трэба, калі мы захочам недзе пасакрэтнічаць, гаварыць паўшэптам. Яны ж усюды могуць "размаўляць на поўны голас": мы іх не падслухаем і нават не пачуем, а будзем толькі з цікавасцю назіраць за хуткім мільганнем рук і ледзь прыкметнымі рухамі вуснаў. Але ж калі раней я лічыла, што ёсць толькі адзін шлях зразумець гэтых людзей — вывучыць іх "мову", то зараз пераканалася, што зазірнуць у свет глухіх можа дапамагчы жывапіс ці проста малюнкі зусім яшчэ маленькіх дзяцей. Здаецца, фарбамі на паперы яны могуць сказаць больш, чым мы здольны пачуць...

— Як вы лічыце, ці могуць вашы заняткі і, наогул, развіццё творчых здольнасцей дапамагчы гэтым дзецям знайсці сябе, пашырыць кола сваіх магчымасцей?

— Думаю, што могуць. Гэта дапаможа ім па-новаму ацаніць свае магчымасці і, мабыць, абраць нейкі незвычайны, нестандартны шлях у жыцці. Тым больш, што вы самі бачылі малюнкі — яны вельмі цікавыя. У нас ніхто ж спецыяльна не вывучаў, як уплывае страта аднаго органа пачуццяў на іншыя, але ж вядома, што сляпыя па цеплавыпраменьванню могуць распазнаваць колеры. Што датычыцца кампенсаторных магчымасцей чалавечага мозгу — яны вялікія.

Аднак хто ведае, ці ўсім гэтыя заняткі і адкрыццё новага ў сабе і акаляючым свеце прыдадуцца, калі яны выйдуць адсюль. Мая мара — стварыць падсобную вытворчасць, напрыклад, швейную. З ліку нашых вучняў можна было б падрыхтаваць мастакоў-мадэльераў, адправіць іх куды-небудзь стажыравацца, а потым па іх эскізах выпускаць моднае адзенне. Мэта — даць нашым дзецям магчымасць і далей развіваць свае здольнасці, прымяніць на практыцы тое, чаму яны навучацца, зберагчы іх нестандартны падыход да жыцця і фантазію, не даць загінуць таму, што з такімі цяжкасцямі набыта.

— Як стваралася ваша галерэя?

— Ідэя стварэння мая, а вось дапамаглі нам у гэтай справе супрацоўнікі ўжо добра вядомай у Мінску мастацкай галерэі "Vita nova" і, канешне, бацькі нашых дзяцей. Кожны з іх хоча,каб свет яго сына ці дачкі стаў шырэйшы і ярчэйшы. Ведаеце, я часам сам сабе нагадваю Чараўніка Ізумруднага горада — "надзеньце зялёныя акуляры, і зараз усе гэтыя шкельцы запалаюць, нібы ізумруды!" Шкада было б і далей трымаць у шафе прыгожыя дзіцячыя малюнкі, зараз жа можна і выстаўляць работы, і збіраць калекцыю. Тым больш, што імі ўжо цікавяцца нават за мяжой — у Амерыцы, Швейцарыі і Англіі адбыліся выставы твораў нашых дзяцей.

Глухата... Свет без гукаў... Свет без вулічнага шуму, без музыкі, без галасоў блізкіх і сяброў... Для пазбаўленых слыху не існуе апошніх паведамленняў па радыё, сімфанічных канцэртаў у філармоніі, сігналаў аўтамабіляў, што папярэджваюць аб небяспецы, і многага іншага, пра што мы, дзякуй Богу, і ўявіць нават не можам. Але часам прырода нібы адчувае сябе вінаватай перад гэтымі дзецьмі і, адабраўшы слых, абвастрае іншыя пачуцці. І тады пальцы інстынктыўна пачынаюць больш пільна вывучаць паверхні прадметаў, вастрэй успрымаюцца пахі, а вочы выразней бачаць колеры, аб'ёмы і формы. І хто ведае, якія асацыяцыі і вобразы ў адказ народзіць фантазія дзіцяці. Не ведаем яшчэ і таму,што, па сутнасці, ніколі не рабілі спроб даведацца аб гэтым, а зараз глухія дзеці самі пастукаліся да нас — мы ёсць, мы існуем, вось мы якія...

— Што на сённяшні дзень для вас самае цяжкае?

— Ведаеце, яшчэ год таму ўсё было прасцей: я мог звярнуцца да бацькоў і папрасіць іх: купіце, калі ласка, вашым дзецям фарбы, пэндзлі, паперу, а зараз проста язык не паварочваецца нешта патрабаваць ад іх. Альбом для малявання, які каштаваў 19 капеек, каштуе 40 рублёў... А яшчэ ж патрэбна шкло, вялікія аркушы паперы, каб афармляць выставы... Гэта яшчэ добра, што ў мяне з былых часоў захаваліся і фарбы, і пастэль, і папера. А што будзе, калі ўсё гэта скончыцца? Памятаеце, у нас паўсюль стаялі помнікі Леніну, дзе ён працягваў руку наперад, указваючы нам шлях у светлую будучыню. Ды, па-мойму, зараз гэтая рука трохі ніжэй апусцілася і павярнулася далонню ўверх... Вось так і ўсе мы стаім з працягнутай рукой і чакаем, можа, хто што туды пакладзе... Танная рабочая сіла вырабіць толькі танную прадукцыю, якая нікому не патрэбна. Таксама ж і дзіця, якое малюе агрызкам алоўка ці пэндзлем для клею, ніколі не зможа стаць творцай. Час ужо гэта зразумець...

У душу іншага чалавека можна зазірнуць толькі тады, калі ён сам прыадкрые яе для цябе. Глухія дзеці пусцілі нас у свой унутраны свет. Як бы толькі нам зараз не аказацца сляпымі...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**







**НА ЗДЫМКАХ: вучаніца Святлана САВІЧ; у адным са школьных класаў; работа Віктара КУЛІНСКАГА "Партрэт".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*З ЧУЖЫХ СТАРОНАК*

# УВАЖЛІВА САЧЫЦЬ ХОД ПАДЗЕЯЎ НА БЕЛАРУСІ

Як падае газета "Беларус" (Нью-Йорк), 28 лістапада мінулага года ў Нью-Йорку адбылося пашыранае пасяджэнне Прэзідыума Рады БНР. Першым у парадку дня было пытанне аб сучасным палажэнні на Беларусі. Вось што піша газета:

"Палітычнае становішча на Беларусі застаецца складаным і небясьпечным для справы адбудовы беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці і нацыянальна-культурнага адраджэньня. Працэс распаду савецкай імпэрыі, як зьява, што пачалася знутра ў выніку заганнасьці самой камуністычнай сыстэмы, трывае далей, паглыбляючы цяпер, сьледам за палітычнай дэцэнтралізацыяй, эканамічны разлад. Эканамічны хаос і зьніжэньне агульнага ўзроўню жыцьця хаваюць у сабе асаблівую пагрозу парасткам беларускай дзяржаўнасьці і нацыянальнай культуры, бо ставяць на першае месца праблему матар'яльнага выжываньня, адцягваючы ўвагу ад маральнага й духовага заняпаду, спрычыненага атэізмам, русыфікацыяй і нацыянальным нігілізмам. Сучасны ўрад Беларусі, экс-камуністычная бальшыня ў Вярхоўным Савеце і шмат дзе афіцыйныя ўлады на мясцох, трымаючыся збанкрутаванае камуністычнае ідэялёгіі, недаацэньваюць важнасьць ідэі незалежнае беларускае дзяржавы, здушваюць дэмакратычную апазыцыю, якая намагаецца прысьпешыць пераход рэспублікі да самастойнай палітыкі і перабудаваць эканоміку на прынцыпах вольнага рынку.

Рада БНР заклікае ўсіх сваіх сяброў і прыхільнікаў уважліва сачыць ход падзеяў на Беларусі, інфармаваць у краёх свайго пасяленьня адпаведныя дзяржаўныя дзейнікі пра Беларусь і ейныя праблемы, спрыяць выхаду ў сьвет беларускіх незалежных прадпрымальнікаў, дапамагаць усімі магчымымі сродкамі адраджэньню беларускай культуры і нацыянальнай сьведамасьці.

Рада БНР уважае за сваё важнае заданьне як мага шырэй інфармаваць вонкавы сьвет пра чарнобыльскае няшчасьце, ад якога пакутуе ўся Беларусь, застаўшыся сам-насам са сваёй бядой, якую ёй спрычынілі іншыя".

Вызначаючы далейшую дзейнасць, Рада БНР абвяшчае, што і надалей будзе "трымаць высока штандар вольнай дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы, спрыяць таму, каб сучасныя дэмакратызацыйныя працэсы на Бацькаўшчыне пашыраліся й паглыбляліся, будзе зьвяртаць увагу сьвету на факты гвалтаваньня ўладамі ў Беларусі волі народу, які чакае на новае дэмакратычнае заканадаўства, што вызваліла-б творчую ініцыятыву кожнага грамадзяніна ўпаасобку і ўсяго грамадзтва ў цэлым".

# СЛОНІМСКІЯ АНСАМБЛІ І ІХ АРТЫСТЫ

Пасля 1778 года ў архівах зноў назіраецца прагал. З іншых крыніц, аднак, вядома, што ў гэты час у Слонім прыехала значная колькасць артыстаў, сярод іх і цымбаліст Дамінік Грабэнбаўэр са сваёю дачкой Евай, спявачкай з Беластоцкай трупы, якая была распушчана. Каля 1780 года Слонімскі аркестр і опера знаходзіліся ў зеніце сваёй славы: яны налічвалі тады найбольш музыкантаў, у тым ліку знакамітых інструменталістаў і вакалістаў. Між іншым, ансамблі ігралі не толькі там, дзе яны размяшчаліся. Нам вядомы факт, што ў 1780 годзе яны знаходзіліся ў Шклове Магілёўскай губерні (гэта значыць за межамі тагачаснай Рэчы Паспалітай). Там яны ігралі ці то ў школе толькі што адчыненай генералам Зорычам для дзяцей беларускай шляхты, ці то ў раскошнай рэзідэнцыі былога фаварыта царыцы. Аркестр, драматычны і оперны ансамблі абыходзіліся гетману каля 300 дукатаў і 1 200 польскіх гульдэнаў у месяц. Такім чынам, гэта была велізарная сума — амаль удвая большая, чым тады ж выдаткоўваў на свой аркестр Станіслаў Аўгуст. А таму няма нічога дзіўнага, што гетман Агінскі, нягледзячы на свае надзвычай вялікія ўладанні, не дужа мог сабе дазволіць такую раскошу.

Аднак вернемся да далейшай гісторыі слонімскіх ансамбляў. У нас няма больш падрабязных звестак пра іх за 1785—1792 гады, гады, якія з'яўляліся па-сапраўднаму значнымі, калі былі паказаны шматлікія оперы і драматычныя спектаклі. А таму можна лічыць, што на пэўны час зноў на службу запрашаліся новыя артысты. Аднак гэта не магло працягвацца доўга. Пазнейшыя звесткі, што адносяцца да 1792 года, сведчаць ужо пра ліквідацыю Слонімскага культурнага цэнтра, якая, напэўна, распачалася яшчэ раней, хутчэй за ўсё ў час новай адсутнасці гетмана ў 1790—1791 гадах. На 1 студзеня 1792 года ансамбль налічваў усяго 12 чалавек. Ён ужо не ўтвараў арганічнае цэлае, хутчэй нагадваў неарганізаваную групку інструменталістаў і вакалістаў, якія яшчэ жылі пры слонімскім палацы і з якіх пазней гетман паклікаў некалькі асобаў у Варшаву. У наступны месяц Слонім пакінулі яшчэ некалькі артыстаў, у тым ліку і спявачка паненка Кінтнер. У 1792—1793 гадах закончыўся "слонімскі перыяд" у дзейнасці гетмана. З аднаго боку, ён змяніў сваю былую "сядзібу музаў" на толькі што прыстасаваны для гэтых мэтаў Гяленаў пад Варшавай, а з другога боку, перавёў частку свайго аркестра ў свой спадчынны маёнтак Целяханы ў невялікі мясцовы замак. Над Слонімам жа, як дзяржаўным маёнткам, навісла пагроза секвестрацыі і канфіскацыі, і яму як цэнтру культурнага жыцця было наканавана спыніць сваё існаванне: у наступныя гады мы сустракаем тут толькі рэзідэнтаў і пенсіянераў, якія кормяцца ахвяраваннямі.

Пра аркестравы ансамбль у Целяханах вядома нам няшмат. Заснаваны, як вядома ўжо, у 1795 годзе, ён існаваў да смерці гетмана. Акрамя фінансавых спраў гэты ансамбль быў, несумненна, той прыцягальнай сілай, якая вабіла хворага гетмана ў апошнія гады яго жыцця ў Беларусь. Велічыня і склад яго, на жаль, застаюцца невядомымі. Толькі прозвішчы двух музыкантаў, Міхала Бяляўскага і А.Ваброўскага, ды ўпамінанне пра тое, што былі куплены струны ці труба, сведчаць пра яго існаванне. Целяханскі ансамбль знаходзіўся пад апекай вядомага ўжо нам палкоўніка Ляхніцкага, які атрымаў гэтую пасаду яшчэ ў Слоніме ў 1792 годзе. На адукаванага і культурнага Ляхніцкага ўскладвалі надзею, што ён зможа належным чынам заапекавацца Целяханскім музычным цэнтрам, хаця ў параўнанні са Слонімскім апошні ўяўляў сабой толькі цень ранейшай пышнасці.

Адначасова ў Гелянове, апошняй рэзідэнцыі гетмана Агінскага, ствараецца новы музычны ансамбль. Яго склад упершыню дакументальна зафіксаваны толькі ў 1797 годзе. Але мяркуецца, што ён быў заснаваны значна раней, таму што ўжо ў 1796 годзе ўсе інструменты і музычны архіў былі здадзены на захаванне ў слонімскі касцёл бернардзінцаў, каб пазней перавесці іх у Гяляноў. Аркестр складаўся з 12 музыкантаў, амаль выключна палякаў (некаторыя з іх ужо працавалі ў Слоніме) і трох паланізаваных чэхаў. Ён абыходзіўся гетману штомесячна ў 41 дукат. Асобнага капельмайстра пэўна не было, хутчэй за ўсё гэтыя функцыі выконваў ранейшы музыкант Карл Геберле, які ўсё яшчэ належаў гетманскаму двару і атрымліваў вельмі высокую месячную зарплату 16 дукатаў, але з аркестрам, мабыць, займаўся няшмат. Аднак нават і гэты ансамбль здаўся гетману занадта вялікім. У 1799 годзе аркестр складаўся толькі з капельмайстра Антона Ваўэра, немца па паходжанні, нядаўна прынятага на працу, і пяці маладых музыкантаў: Пташэўскага, Дамбковіча, Дабжанскага, Васілеўскага і Хадкевіча. Рашэнне пра такое скарачэнне і такі склад аркестра прыняў сам гетман. Тады ж у Гелянове былі тры спявачкі: Бярнацкая, Каліноўская і Сулятыцкая; дзве першыя па распараджэнні Агінскага павінны былі вывучаць італьянскую мову, для чаго ён наняў асобнага настаўніка Альцыяці, якому цяпер плацілі толькі пагадзінна.

Названы апошні ансамбль заставаўся пры гетмане да самай яго смерці, знаходзячыся то ў Гелянове, то ў Варшаве. Распушчаны ён быў толькі ў 1800 годзе, калі ліквідавалася рэзідэнцыя гетмана.

Параўнанне Слонімскіх аркестраў, што змяняліся адзін за другім, з падобнымі аркестрамі ў Нясвіжы, які несумненна быў самым вялікім і доўгатэрміновым "музычным дваром", сведчыць, што Агінскі мала ў чым уступаў Радзівілам. З аркестра ў 12 чалавек ён у час свайго росквіту (каля 1780 года) перарос у ансамбль, які налічваў больш 50 музыкантаў — інструменталістаў і вакалістаў. Ён мог смела спаборнічаць з Нясвіжам, аркестр якога налічваў спачатку 16, а пазней — 23 і 25 музыкантаў і толькі ў час візіту Станіслава Аўгуста дасягнуў рэкорднай колькасці — 44 музыкантаў. Пры гэтым супастаўленні яскрава відаць значнасць ансамбля пры двары Агінскага. Яго ўзровень, што фарміраваўся пад асабістым наглядам такіх знаўцаў музыкі, як гетман і яго намеснік Вайніловіч, без сумнення, у мастацкіх адносінах перавышаў ансамблі, якія ігралі ў Нясвіжы. Апошнія хутчэй за ўсё служылі для бліскучага афармлення ўрачыстасцяў, а не музыцы як такой.

Падобна музычным ансамблям пры двары гетмана развіваўся і балет. Ён упершыню ўзнік у сярэдзіне 1777 года. Танцоры балета з чэрвеня месяца ўпершыню былі ўключаны ў спіс на атрыманне зарплаты. Гэты ансамбль складаўся спярша з чатырох мужчын і чатырох жанчын, якіх называлі "балетнымі юнакамі і балетнымі дзяўчатамі". Кіраваў ім Ноак. Сярод танцоўшчыкаў сустракаем і дзяцей прыдворных музыкантаў (дзяўчаты Будзевіч і Заблоцкія). Такі невялікі балет хутка здаўся недастатковым, а таму неўзабаве ўзнікла ў Слоніме балетная школа. Яна была заснавана ў 1781 годзе і існавала, мабыць, не менш чым да 1792 года, калі, напэўна, з усім музычным дваром перасялілася ў Целяханы. Спачатку школай кіраваў названы вышэй нямецкі балетмайстар Ноак, якому мы павінны быць удзячныя за добрасумленную фінансавую справаздачу пра выдаткі, зробленыя ў 1781—1782 гадах на вучняў. З яе відаць, што акрамя адзення, якое было досыць прыстойным (гэта вынікае з апісання выкарыстаных для яго тканін), для іх куплялі як туалетныя рэчы — пудру і памаду (кожны месяц заказвалася адпаведная партыя тавараў на суму восем злотых), грабяні са слановай косці, шпількі для косаў, так і паперу, і пісьмовыя прылады. У нейкай ступені гэта сведчыла і пра пэўную агульную адукацыю, якая давалася пры навучанні танцам. Балетная школа мела ўласнага гувернёра, сваю цырульню, сваіх кухарку, прыбіральшчыцу і прачку. Гаспадарку вяла Агнешка Долінгер, якая на ўтрыманне танцоўшчыкаў выдаткоўвала па 16 дукатаў штомесячна (1785), а пазней ужо па 20 дукатаў (1792), пры гэтым у сярэднім на чалавека прыпадала па 16 грошаў штодзённа. Дадаткова незалежна ад гэтага аплачваліся свечкі і дровы для кухні, як і асобная швачка для балерын пані Журкевіч.

Танцоўшчыкі і танцоўшчыцы жылі ў невялікіх дамах, спецыяльна пабудаваных для іх гетманам. Акрамя таго, у іх былі асобныя залы, прызначаныя для заняткаў. Узрастала і колькасць вучняў слонімскай балетнай школы. У 1785 годзе іх было ўжо 18, пасля 1790 года напэўна яшчэ больш, таму што выдаткі на "дэпартамент балетных дзетак" дасягнулі ў 1792 годзе вельмі значнай сумы — 41 дукат штомесяц.

Акрамя Ноака і яго жонкі, што побач з паненкай Экер пазней выступала ў Слоніме як прымабалерына, у спісах мы сустракаем яшчэ два прозвішчы — асобаў, арганізацыйна і творча звязаных з мясцовым балетам. Першая з іх — Феліцэ Марыні, кампазітар і аўтар балетных твораў, яму, безумоўна, належала агульнае кіраўніцтва слонімскай школай, чаму яскравым доказам служыць варшаўская афіша 1788 года, дзе паведамлялася пра "слонімскіх танцоўшчыкаў са школы пана Марыні". Відаць, у тым жа годзе ён пакінуў двор гетмана. Другое прозвішча належыць выдатнаму выканаўцу характэрных роляў, балетмайстру і педагогу канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў Францішку Шлянцоўскаму. У Слонім ён прыехаў паміж 1785 і 1788 гадамі. Яму без сумнення можна прыпісаць арганізацыю ансамбля, які за кароткі час заваяваў прыкметную славу. Пра гэта сведчыць такі факт. Калі ў 1784 годзе, у час прыезду ў Слонім Станіслава Аўгуста, пасля пастаноўкі оперы "Дэзерцір" быў паказаны адзін з балетаў, Нарушэвіч ацаніў яго яшчэ даволі сціпла: "...а балет паказаны так, як яго мог бы выканаць кожны з маладых польскіх ансамбляў для сапраўднага задавальнення Яго Каралеўскай Светласці, усіх гасцей і дзеля весялосці саміх дзяцей..." Як вынікае з гэтай цытаты, задавальненне караля і гасцей было ў меншай ступені выклікана эстэтычнымі перажываннямі, у большай жа народжана звычайнай радасцю, якую выклікае кожны прывабна выкананы дзіцячы спектакль.

Праз некалькі ж гадоў дзякуючы намаганням Марыні і асабліва Шлянцоўскага слонімскі балет поўнасцю змяніўся і стаў ансамблем, што ўспрымаўся сур'ёзна і мог паспяхова выступаць на сталічных сцэнах. На пачатку 1788 года гетман адправіў групу сваіх танцоўшчыкаў у Варшаву для выступлення 14 лютага ў балеце "Рыбакі" і выканання "па дэ кватра". У сувязі з заўвагай В. Багуслаўскага, дзе гаварылася пра павелічэнне Варшаўскага балета "дзякуючы новым танцоўшчыкам, што прыбылі з тэатра Агінскага", гэтае варшаўскае выступленне дало ранейшым даследчыкам падставу для вываду, што ўвесь слонімскі балет пераехаў тады ў Варшаву і што нібыта гетман яго падараваў каралю. Аднак гэта зусім не так. Нельга ўпэўнена сказаць, ці засталася тады частка слонімскіх артыстаў у сталіцы, бо дакладна вядома, што Шлянцоўскі вярнуўся ў горад над Шчарай і што мясцовы балет працягваў развівацца. Сам Шлянцоўскі ў канцы 1788 года яшчэ раз быў у Варшаве, дзе 13, 15 і 29 лістапада выступаў у балетах Курца "Нежаданае каханне", "Рыбакі", а таксама ў балеце Пікю "Іспанская сірата", прычым танцаваў ён, галоўным чынам, па-дэ-дэ паводле ўласнай задумы разам з варшаўскай танцоўшчыцай Дарэўскай.

Апошнія гастролі слонімскага балета, якія нам вядомы, прыходзяцца на зіму 1790—1791 гадоў. Гаворка ідзе пра паездку ў Дубну на папулярныя мясцовыя "кантакты", якія пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай праводзіліся там замест шырокавядомых кірмашоў у Львове, цяпер ужо загранічным. Тройчы ў год на некалькі тыдняў Дубна ператваралася ў самае прывабнае месца артыстаў Рэчы Паспалітай. Тады ў яго абодвух тэатральных залах выступалі лепшыя музычныя, драматычныя, оперныя і балетныя ансамблі пад гарачыя апладысменты шляхты, што масава збіралася сюды, каб заключыць гандлёвыя пагадненні. Уладальнік Дубны, генерал Міхал Любамірскі, знаўца і аматар музыкі, пільна сачыў за ўзроўнем выступленняў і запрашаў сюды найбольш цікавыя ансамблі на чале з тэатрам В. Багуслаўскага. Пасля 1792 года гэты часовы росквіт горада закончыўся, а пазнейшае перанясенне "кантактаў" у Кіеў прывяло да заняпаду Дубны.

Роспуск слонімскага аркестра, які, як вядома, адбыўся ў 1792 годзе, не выклікаў адначасовага распаду балета. Ва ўсякім выпадку, балетная школа існавала яшчэ да паловы гэтага года, бо вядома, што ў чэрвені частка танцораў пераехала ў Целяханы. Балет існаваў там яшчэ на рубяжы 1795—1796 гадоў, бо якраз тады былі куплены ў Зэльве "струны для танцоўшчыкаў балета з Целяханаў". У Слоніме ж заставаўся толькі стары балетмайстар Ноак, які тады арандаваў рыбныя ставы. Акрамя балетмайстра Шлянцоўскага (з мая 1792) толькі адзін з танцоўшчыкаў, "балерун Мацей", знаходзіўся пры двары гетмана ў Варшаве яшчэ ў 1793 годзе. Дакладная дата канчатковага роспуску балета нам невядома. Ён наступіў, аднак, ці то перад самай смерцю Агінскага, ці, магчыма, яшчэ пазней, у сувязі з агульным урэгуляваннем спадчынных інтарэсаў. У той жа час у спадчынных актах няма аніякіх згадак пра якія-небудзь фінансавыя прэтэнзіі з боку танцоўшчыкаў да "шкатулкі"

**Анджэй ЦЕХАНАВЕЦКІ.**

*Пераклад с польскай мовы Уладзіміра САКАЛОЎСКАГА.*

**Заканчэнне. Пачатак у № 3.**



**Оля ДУБРОЎСКАЯ (на здымку) — дзевяцікласніца Клімавіцкай мастацкай школы — стала лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу дзіцячага малюнка "Свет вачыма дзяцей". Разам з іншымі лаўрэатамі і дыпламантамі конкурсу Оля пабывала ў Германіі, дзе паказала свае работы.**

**Фота В. БЫСАВА.**

# АЎТАРЫ КНІЖКІ — МАЦІ І СЫН

Беларускае літаратурная аб'яднанне "Белавежа", якім кіруе Ян Чыквін, выдала ў Беластоку кніжку "Маці і сын". Пад адной вокладкай сабраны невядомыя вершы Ларысы Геніюш і паэтычныя абразкі яе сына Юркі Геніюша.

Падборка Л. Геніюш названа "Сэрца". Добрая назва, бо ўсе вершы, а тым больш у гэтым зборніку, аўтаркай напісаны ад шчырага сэрца, з любоўю да Беларусі.

Уступнае слова "Яна лічыла сябе яцвяжкай" напісала Д. Бічэль-Загнетава. "Ларыса Геніюш і яе хата, як сонейка, прыцягвалі ўсё яшчэ жывое на Беларусі — пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, сялянак. З пустымі рукамі й душамі адтуль не ехаў ніхто. І вершы ехалі. А чаго іх было трымаць дома? Не для савецкага ж друку яны ствараліся..."

Сапраўды так, бо толькі сэрцам можна напісаць такія радкі:

**Не хачу быць дома эмігрантам!**
**Гаспадыня тут я — а не госць!**
**Гаварыць на дзікім "эсперанта",**
**Калі мова матчыная ёсць?!**

Трыццаць дзевяць твораў... Кожны радок і кожная страфа адметныя тым, што яны трывала прывязаны да родных ніў, беларускіх хат. У вершах — сама Беларусь:

**Сярод бураў стыхіі сусветных**
**мы сягоння ў імклівых радах.**
**Беларусь — гэта нашая мэта,**
**а над намі крывіцкі наш сцяг.**

Падборка Ю. Геніюша мае назву "Да свету". Прадмову напісаў С. Яновіч. Яна невялікая, шчырая і простая.

Талент Ю. Геніюша найбольш праявіўся ў паэтычнай прозе. Менавіта яна ў асноўным і прадстаўлена ў кнізе. Маленькія лірычныя абразкі чытаюцца лёгка. Змешчана некалькі вершаў, якія напісаны на фальклорна-міфалагічнай аснове. Але рэфрэнам твораў Ю. Геніюша з'яўляецца, відаць, верш "Да свету". Ці не ў ім дэвіз самога паэта?!

**Пасля ночы будзе-будзе колісь дзень.**
**Мы не можам жыць без свету —**
**Я і авадзень.**

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ЗЁЛКІ АД БЯСПАМЯЦТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

А пояс, аказваецца, зусім не простая дэталь і ў жаночым, і ў мужчынскім адзенні. Круг валодае магічнай сілай, і таму глыбокі сэнс некалі мела акружэнне горада сцяной, дома — плотам. Пояс замкнуў прастору (круг) вакол цела чалавека, дапамог захаваць цяпло, абярог ад зла. Набедраная павязка — той жа пояс. Ён мог быць з гнуткай расліны ці лыка. Пояс — пачатак адзення чалавека. З удасканальваннем вопраткі ўдасканальваліся і паясы. Віццё, пляценне, ткацтва. Паясы вырабляюцца са скуры, воўны, лёну, каноплі. Упрыгожваюцца бісерам, кутасамі. Пояс, як потым ручнік, з чалавекам ад нараджэння да скону: ім спавівалі дзіця, падпяразвалі маладых як адно непарушнае цэлае, на ім апускалі труну ў магілу.

Выдатная калекцыя беларускіх паясоў знаходзілася ў музеі Івана Луцкевіча ў Вільні. Са знікненнем музея зніклі і многія яго каштоўнасці, літоўскімі экспанатамі сталі беларускія паясы. Багатай калекцыяй нашых паясоў валодае Санкт-Пецярбургскі этнаграфічны музей. Ёсць яны ў прыватных калекцыях у Польшчы і ў нас на Беларусі. Не так даўно М. Раманюк атрымаў пасылку з Францыі ад нашай зямлячкі Ляўковіч. Яна прыслала паясы, якія на чужыне на працягу многіх гадоў нагадвалі ёй пакінутую Бацькаўшчыну, сагравалі сэрца сваёй прыгажосцю, мілымі ўзорамі.

Сёння на Беларусі працуе некалькі фабрык мастацкіх вырабаў, і найперш Слуцкая, якія вырабляюць тканыя паясы. Аспірантка Беларускай акадэміі мастацтваў Вера Селівончык выступіла на канферэнцыі з глыбокім даследаваннем "Паясы — з'ява беларускага нацыянальнага мастацтва". Яна прасачыла і ўзлёты яго, і спады на працягу апошняга стагоддзя. У канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў пояс выкарыстоўваўся і ў побыце, і ў абрадах народа. З пояса пачыналі засвойваць ткацкае рамяство. Але ўжо ў 20—30-я гады вытворчасць паясоў становіцца арцельнай справай, спыняецца працэс творчага развіцця, пояс не набывае новых рысаў і паступова ператвараецца ў прамысловы выраб. У традыцыйнай форме пояс захоўваецца на Гродзеншчыне прыкладна да 50-х гадоў, яшчэ даўжэй — у асобных раёнах Брэстчыны. У асноўным пояс наш стаў фабрычным, захаваўшы толькі элементы народнай творчасці. Вырабы не вызначаліся разнастайнасцю, фантазіяй, і цяжка было нават уявіць, што калі-небудзь зробіцца магчымым адраджэнне таго даўнейшага, спрадвечнага, што адрознівала беларускі пояс ад усіх іншых, што надавала яму магічную сілу, якою валодаў ён з даўніны і страціў у наш час, ператварыўшыся ў сувенірны выраб. На пачатку 80-х гадоў да паясоў звярнулася навукова-эксперыментальная мастацкая лабараторыя, якая занялася вывучэннем традыцый гэтага віду ткацтва, яго тэхналогіі, былі зроблены метадычныя распрацоўкі. Усё гэта дало штуршок развіццю новага накірунку рамяства, і ўжо можна прагназіраваць, што яно пачне адраджацца ў формах, адпаведных часу, але з улікам і захаваннем старадаўніх традыцый.

У дзень адкрыцця канферэнцыі ў Мінску ў Цэнтры фальклору "Белая дача" адкрылася выстава "Беларускія народныя паясы". На ёй былі прадстаўлены ўзоры даўнейшага ткацтва і сучасныя вырабы. Працавалі на выставе і майстрыхі, якія ўдасканальваюць старажытнае мастацтва, захоўваючы набыткі продкаў, традыцыйны колер і арнамент. Прысутнічалі майстры і на канферэнцыі, дзе з надзвычайнай скрупулёзнасцю, навуковай дакладнасцю вызначаліся рысы і напрамкі нацыянальнага пояса. Не толькі беларусы спахапіліся і зразумелі неабходнасць адраджэння культурнай спадчыны. Заняпад рамёстваў, адыход ад векавых традыцый —з'ява, мусіць, характэрная і для Расіі. "Аб вопыце работы па адраджэнні ткацтва паясоў у г. Карпагоры Архангельскай вобласці", "Вопыт адраджэння традыцый народнага ткацтва поўначы Расіі" — тэмы дакладаў расійскіх калег, якія гавораць самі за сябе.

Міхась Раманюк палічыў вельмі важным, што на канферэнцыю прыехалі майстры і навукоўцы з розных рэспублік. Як спецыяліст, ён падкрэсліў, што тэхналогіі вырабу паясоў вельмі блізкія, аднак у кожнага народа ёсць чаму павучыцца, і такім чынам адбудзецца ўзаемаўзбагачэнне.

Пояс перастае быць толькі сувенірам, зазначыў Міхась Фёдаравіч. Сапраўдны народны пояс, а не шырспажыў выкарыстоўваецца ў сцэнічным касцюме, бо і тут назіраецца цяга да аўтэнтычнасці.

Кандыдат мастацтвазнаўства Мая Яніцкая вымавіла такое нязвыклае ў прымяненні да мастацтва слова — бізнес. Справа ў тым, што вырабы ручной работы ва ўсім свеце цэняцца надзвычай высока. Для майстроў, што ствараюць паясы, з'явіўся дадатковы стымул: рабіць унікальныя творы. У час канферэнцыі і на выставе майстры вучыліся адзін у аднаго, занатоўвалі і малявалі ўзоры, дзяліліся вопытам. І бізнес можа стаць стымулам да адраджэння.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# "НЕ ЗАКАПАЎ СВАЙГО ТАЛЕНТУ..."

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У 1558 годзе С. Будны з'явіўся ў Вільні — сталіцы Беларускага гаспадарства, дзе на працягу двух год выкладаў асновы тэалогіі ў пратэстанцкай школе. Менавіта тут ён пазнаёміўся з іншымі вядомымі да таго часу дзеячамі беларускай Рэфармацыі — С. Закам, М. Чаховіцам, М. Вендрыгоўскім ды інш. С. Будны стала наведваў паседжанні Збора, браў удзел у дыскусіях, прысвечаных пераважна тэалагічным праблемам.

Таленавіты казнадзей быў адразу заўважаны лідэрам нашага рэфармацыйнага руху, магутным князем Мікалаем Радзівілам Чорным (1515—1565), які блізу 1560 года запрасіў яго да сябе ў Клецк прапаведаваць сярод ягоных падданых Слова Божае.

Клецкі перыяд, што працягваўся ад 1560 да 1565 года, у жыцці асветніка стаўся вельмі плённым. С. Будны падрыхтаваў тут славуты "Катэхізіс" (Нясвіж, 1562) і "Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" (Нясвіж, 1562). Яны прынеслі яму вядомасць у Вялікім Княстве Літоўскім, Маскові ды Польшчы. "Катэхізіс", дарэчы, быў выдадзены на сродкі Радзівіла, а "Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" — коштам нашага другога не менш вядомага дзяржаўнага і культурнага дзеяча Астафея Валовіча, які, да таго ж, ахвяраваў значную суму грошай на заснаванне друкарні ў Нясвіжы.

Па з'яўленні твораў С. Буднага на яго пачаліся нападкі з боку каталіцкіх і праваслаўных аўтараў. Нядобразычліўцы абвінавацілі асветніка ў схільнасцях да юдаізму і сувязях са "старазапаветнікамі", што вызнавалі Майсеева пяцікніжжа і адмаўлялі вучэнне Хрыста. С. Будны даў арыгінальны адказ сваім апанентам. Ён пераклаў на польскую мову і выдрукаваў твор старажытнага багаслова Юстына "Размова з Трыфанам Яўрэем" (Нясвіж, 1564), які акурат быў скіраваны супраць юдаізму. (Унікальны паасобнік гэтага твора знойдзены мною ў Санкт-Пецярбургскай бібліятэцы Акадэміі навук. — **І.С.**). У прадмове да гэтага твора С. Будны яшчэ раз сфармуляваў сваю тэалагічную дактрыну, цалкам адмежаваўшыся ад "старазапаветнікаў". Блізу 1566 года пасля смерці апекуна Мікалая Радзівіла Чорнага С. Будны пераязджае ў Холхава — маёнтак Ганны Кішчынай, куды яго ласкава запрасіла гаспадыня. На працягу чатырох год асветнік узначальвае Холхаўскі арыянскі збор, наведвае шэраг пратэстанцкіх Сінодаў — у Венграве (1567), Скрыне (1567), Іўі (1568), дзе выступае па шматлікіх пытаннях унутранага жыцця Рэфармацыйнай Царквы. У 1569 годзе ён апублікаваў тэалагічны трактат "Аб зачацці сына Божага". У Холхаве С. Будны завяршыў працу над падрыхтоўкай Апокрыфаў і кніг Новага Запавету, якія надрукаваў у 1570 годзе ў Нясвіжскай друкарні Даніэля Лянчыцкага.

Вядома, і ў гэты час асветніка не пакідалі ў спакоі ягоныя праціўнікі. Так, Пётра Гоняд — аўтар шэрагу тэалагічных трактатаў, выдадзеных у Венграве ў славутай друкарні Яна Кішкі, абвінаваціў С. Буднага ў "эбіонстве". У адказ на новыя паклёпы асветнік мусіў неадкладна падрыхтаваць і выдаць у Берасцейскай друкарні твор "Аб асноўных артыкулах веры" (1570).

На пачатку 70-х гадоў XVI стагоддзя С. Будному зноўку давялося шукаць прытулак, каб, па яго ж словах, "не закапаць свайго малога таленту ў зямлю". Ён пераязджае ў Заслаўе да Яна Глябовіча, менскага кашталяна і вялікакняскага скарбніка. Тут ён жыве каля двух год і нарэшце завяршае працу над перакладам біблейных кніг Старога Запавету. З просьбай аб выданні Святога Пісання ён звярнуўся да Альбрэхта і Гектара Кавячынскіх, якія на той момант, пасля смерці брата Мацвея, сталі ўласнікамі Нясвіжскай друкарні. З Нясвіжа яны перавезлі друкарню ва Узду, дзе і друкаваўся ў 1572 годзе поўны пераклад Біблії, ажыццёўлены нашым асветнікам. Праўда, браты Кавячынскія, паводле сведчанняў Буднага, пры выданні новазапаветных кніг вельмі папсавалі іх і "выправілі" на свой густ шэраг вершаў.

Найбольш плённым у жыцці С. Буднага было дзесяцігоддзе, ад 1572 да 1582 года, калі ён жыў у Лоску, у доме Яна Кішкі. Гэты па-еўрапейску асвечаны мецэнат прыдбаў Нясвіжскую друкарню ў братоў Кавячынскіх і перавёз яе ў свой маёнтак. Акурат у Лоску наш асветнік у 1574 годзе перавыдаў Новы Запавет, унёсшы прыкметныя карэкціроўкі ў ранейшы пераклад. Гэтае выданне атрымала надзвычай высокую ацэнку еўрапейскіх тэолагаў, бо ў часе яго падрыхтоўкі Будны прарабіў велізарную тэксталагічную працу, выкарыстаў літаральна ўсе папярэднія выданні Апостальскага Пісьма і шматлікія рукапісныя варыянты на іўрыце, лаціне, грэцкай, нямецкай і царкоўнаславянскай мовах. Новы Запавет у перакладзе Буднага з ахвотай набывала беларуская шляхта, асвечаныя іншаземцы і бібліятэкі еўрапейскіх універсітэтаў.

У лоскі перыяд С. Будны пераклаў на польскую мову і выдаў твор Эрнеста Варамунда Фрыза "Аб фурыях, альбо французскім шаленстве" (Лоск, 1576). Тут жа ім быў падрыхтаваны галоўны тэалагічны твор "Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры" (Лоск, 1576). У ім С. Будны выступіў з крытыкай вучэння аб Тройцы, прапанаваў новае разуменне Бога і Хрыстовай Царквы, выказаў арыгінальныя хрысталагічныя ідэі, сутнасць якіх выклаў у Сімвале веры. Каб наблізіць чытача да разважанняў Буднага, прыгадаю ўрывак з ягонага Сімвала веры, дзе якраз вядзецца гутарка пра сына Божага. "Вызнаю аб Хрысту Пану, народжаным Марыяй, — паведамляецца ў ім, — што Ён ёсць уласны Сын Божы, адзінародны і першародны, больш мілы Богу ніж усе іншыя стварэнні. Ён знаходзіўся сярод людзей і быў у вобразе альбо ў кшталльце Божым; чыніў нечуваныя цуды і дзівосы; вылечваў усялякія хваробы; адганяў ад людзей Д'ябла, загадваў ветру і мору. Калі ж за нашыя грахі мусіў быць ахвяраваны, тады прыняў на сябе вобраз нявольніка і зведаў цялесныя пакуты, як і кожны чалавек. Нібы не маючы аніякае моцы, Ён дазволіў вязаць сябе, судзіць, біць, крыжаваць і забіць. Бог даў яму вечнае жыццё, уваскрэсіў Яго, паставіў суддзёю ў сталіцы Давыдавай, зрабіў нашым пастарам, настаўнікам, кіраўніком, панам, гетманам, каралём, ахвярнікам, уваскрэшаннем, справядлівасцю, мудрасцю, пасвячэннем і выкупленнем, вінным дрэвам, стваральнікам Новага Запавету, галавою і Богам нашым. Не таму, што з Ягонай (Богавай. — **І.С.**) існасці спрадвеку нарадзіўся, а таму, што Ён даў Яму ўсю ўладу на небе й на зямлі, узняў Яго над усімі людзьмі і анёламі, падараваў яму імя, якое вышэй за іншыя імёны, пасадзіў на нябёсах праваруч Сябе і Ён будзе з намі да сканчэння веку. Цераз Яго хоча Бог уваскрэсіць усіх людзей і будзе судзіць іх, каб кожны за свае ўчынкі — добрыя альбо злыя — атрымаў адпаведныя ўзнагароды. Святое пісанне прыпісвае Яму ўсе тытулы. Але нідзе не называе Яго стваральнікам усяго існага, усемагутным і адзіным праўдзівым Богам, паколькі гэтыя тытулы належаць толькі самому Богу-Айцу".

С. Буднага, вядома, хвалявалі не толькі тэалагічныя праблемы, але й вострыя пытанні грамадскага жыцця, тым больш, што ў другой палове XVI стагоддзя ў Беларусі пашырылася вучэнне анархістаў — Якуба з Калінаўкі, Яна Немаеўскага, Пётры Гоняда, Паўла з Візны, Марціна Чаховіца ды інш., што прапаведавалі камуністычныя ідэі паўсюднай сацыяльнай роўнасці хрысціянаў. "Сапраўдныя" паслядоўнікі Хрыста, якімі лічылі сябе анархісты (гэтак трапна іх ахрысціў Будны) патрабавалі ад усіх заможных людзей неадкладнага продажу сваёй маёмасці ды падзелу грошаў між жабракамі, даводзячы, што першыя хрысціяне мелі ўсё агульнае. У іх уяўленні дасканалае грамадства — гэта грамадства бедных і ўбогіх. Дасягненне роўнасці ў галоце і нэндзы — вось, на іх думку, той адзіны ідэал і галоўная мэта, да якой належыць імкнуцца. Ідэі беларускіх аскетаў-камуністаў, вядома, не былі новыя ў гісторыі грамадскай думкі. Яны мелі месца ўжо ў апакрыфічным Евангеллі Тамаша і Евангеллі Яўрэяў, а гэтаксама ў падробным Вучэнні дванаццаці Апосталаў.

Найбуйнейшы аналітык XVI стагоддзя С. Будны, пазнаёміўшыся з асноўнымі тэзісамі новага, а дакладней, адноўленага вучэння, адразу адзначыў яго гістарычную бесперспектыўнасць і ў піку яму прапанаваў уласную сацыяльную мадэль развіцця грамадства ды аптымальны механізм яго рэгулявання, які акурат прадугледжваў мірнае суіснаванне розных сацыяльных груповак без раптоўных, рэвалюцыйных пераўтварэнняў.

У "Катэхізісе" і "Апісанні Іўеўскага Сіноду 1568 года" беларускі мысліцель выступіў з доказамі не толькі непазбежнасці, але й неабходнасці сацыяльнай няроўнасці, сцвярджаючы, што ні Хрыстос, ні Апосталы ніколі не патрабавалі знішчэння багатых ды прыватнай уласнасці. Кожны чалавек, падкрэсліваў Будны, можа мець маетнасць любых памераў, абы толькі яна была набыта сумленным шляхам і каб яе ўладальнікі не забываліся даваць міласціну ўбогім і тым, хто жыве ў нястачы.

С. Будны гэтаксама выступаў у абарону ўраду і дзяржавы, да ліквідавання якіх заклікалі анархісты.

Сваю сацыяльную дактрыну С. Будны найбольш поўна выказаў і абгрунтаваў у зборніку твораў "Аб свецкай уладзе" (Лоск, 1583), а гэтаксама прадмовах да кнігі Анджэя Фрыча Маджэўскага "Аб выпраўленні дзяржавы" і Якуба Палеолага "Абарона правільнага погляду на ўладу".

У 80-я гады XVI стагоддзя ў арыянскім руху запанавалі прадстаўнікі радыкальнага крыла. Памяркоўныя сацыяльныя ідэі С. Буднага, натуральна, не знайшлі ў іх падтрымкі. Асветнік у 1582 годзе быў адлучаны ад Збору і мусіў пакінуць Лоск.

Нейкі час ён жыў у Полацку, пасля ў Іўі, дзе працавала вядомая арыянская акадэмія. Апошнія гады асветнік правёў у Вішневе (цяпер Валожынскі раён), дзе і памёр 13 студзеня 1593 года.

Чалавек універсальных ведаў, таленавіты пісьменнік, прафесійны перакладчык, неардынарны прапаведнік ды выдатны філосаф С. Будны зрабіў неверагодна шмат дзеля беларускай, славянскай і ўсёй еўрапейскай культуры. Праз увесь свой век ён без спыну пашыраў гуманістычныя ідэі, страсна абараняў веды й навуку, шукаў шляхі ўдасканалення асобы і грамадства. Мусіць, з тае прычыны да ягонай спадчыны ніколі на працягу стагоддзяў не знікала і не знікае цікавасць нашчадкаў.

**Іван САВЕРЧАНКА.**



**Тысяча дзевяцьсот дзевяноста тры гады таму Іаан Хрысціцель ахрысціў у Іардане Ісуса Хрыста. Вада ракі, стаўшы свяшчэннай, амыла таго, на кім не было ніводнага граха, і вось ужо амаль два тысячагоддзі ўсе праваслаўныя хрысціяне святкуюць гэтую падзею і асвячаюць ваду, якою карыстаюцца і ў полі, і ў доме.**

**Можна даць шмат тлумачэнняў узросшай "рэлігійнасці" нашага народа. Але ж, калі на душы лёгка і ўсё навокал добра, не цягне некуды ісці і выказваць падзяку за добры настрой. А вось калі прыцісне жыццё, зашчыміць сэрца і стане белы свет нямілы - тады і задумаешся, куды бегчы за паратункам. А сёння хочацца часам запытацца словамі свяшчэннага пісання: "Ці ж не пераўтварыў Бог мудрасць свету гэтага ў яго вар'яцтва!". Але ж калі нават і так, то, відаць, і ў гэтым ёсць нейкі сэнс, трэба толькі зразумець, у чым ён...**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ВЫДАДЗЕНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ*

# ШКАДА, ШТО МАЛА...

З непрафесійнымі пісьменнікамі мне даводзілася сустракацца не раз. Здаралася, дапамагаў ім апрацоўваць матэрыялы, рэдагаваў рукапісы. І стаўлюся я да такіх людзей з вялікай павагай. Падкупляе ў іх работах не дасканалы стыль, не сакавітая мова, бо якраз гэтага і няма, а прастата выказвання, даступнасць зместу для чытача любога рангу, уменне данесці да нас самае-самае, што набалела, што выпакутавана, што ляжала на душы не год і не два.

...Працуе на гадзіннікавым заводзе Аляксандр Ахраменка. Шмат гадоў займаецца грабным слаламам. Не раз бачыў яго на турысцкіх злётах.

Неяк падышоў Аляксандр да мяне і падзяліўся сваімі думкамі:

— Грабным слаламам хочуць займацца многія, а з чаго пачынаць, не ведаюць. Няма неабходнай літаратуры. Можа дапамагчы ім і выдаць нешта накшталт брашуры?

Ідэя добрая. Насцярожвала толькі слова — "брашура". Такога плана выданні па многіх відах спорту ўжо ёсць. Але гэта метадычная літаратура, дапаможнікі для вузкага кола спецыялістаў, трэнераў. А што, калі адысці ад агульнапрынятых канонаў? І я выказаў сваю думку Аляксандру Ціханавічу.

Гэты неспакойнай душы чалавек горача ўзяўся за справу: пераглядзеў дзесяткі спартыўных айчынных і замежных часопісаў, дапаможнікаў, сустракаўся са спецыялістамі...

І вось у мяне ў руках блакітнага колеру выданне. Невялікае па памерах, някідкае знешне па афармленню. Але як лёгка, з цікавасцю чытаецца!

Аўтар расказвае, як нарадзіўся грабны слалам. Спачатку ён быў не спортам, а жыццёвай неабходнасцю: "Доўгія гады, пачынаючы з 1638-га, паміж Швецыяй і Фінляндыяй была ўстаноўлена па моры рэгулярная дастаўка пошты... Пазней, у 1974 годзе, традыцыя аднавілася, але ўжо ў новай якасці — спартыўнай".

Грабны слалам хутка развіваўся, з 1949 года пачалі праводзіцца чэмпіянаты свету. Аляксандр Ахраменка коратка расказвае аб іх, у тым ліку і аб Алімпійскіх гульнях 1972 года, калі ўпершыню гэты від спорту быў уключаны ў праграму.

Рана пачалі праводзіцца гонкі грабцоў і ў Расіі. Афіцыйнае паведамленне аб гэтым датуецца 1773 годам. У савецкі перыяд колькасць аматараў грэблі значна ўзрасла. Цэнтрам падрыхтоўкі спартсменаў стала Латвія. Асаблівага поспеху тут дамаглася неаднаразовы пераможца ўсесаюзных турніраў і першынстваў Бірута Кемерэ. Але, як адзначае аўтар, "нашы спартсмены яшчэ не складаюць пэўнай канкурэнцыі на міжнародных спаборніцтвах".

Цяпер адбылося раздзяленне СССР. Спартсмены былых рэспублік выступаюць асобнымі камандамі ў многіх спаборніцтвах. На жаль, у грабным слаламе, у адрозненне ад барацьбы, лёгкай атлетыкі і іншых відаў, Беларусь таксама не канкурэнт замежным зборным. Якія ж перспектывы тут?

Вялікія, сцвярджае ў сваім выданні "Грабны слалам" А. Ахраменка. Паміж Заслаўскім і Драздоўскім вадасховішчамі пад Мінскам быў пабудаваны штучны канал — адзіны ў былым СССР для слалама на байдарках і каноэ. Ёсць і вопытныя (хаця і мала!) спартсмены, трэнеры: Валерый




Маскалёў, Таццяна Судаленка, Алена Курзіна і Сяргей Бакіноўскі. Апошнія — члены зборнай былога СССР.

"Грабны слалам" — добра ілюстраванае выданне. Тут змешчаны фота лепшых спартсменаў, спартыўныя трасы, а пачынаючыя спартсмены знойдуць для себя і рэкамендацыі: якія патрэбны лодкі, якая экіпіроўка, даецца геаграфія натуральных водных трас Беларусі.

Адразу зробім агаворку: гэтае выданне вы не знойдзеце ў кнігарнях, нават у сталічных. Тыраж дзве тысячы экземпляраў (выпушчана выдавецтвам "Беларускі Дом друку") не змог задаволіць попыт чытачоў.

Напрошваецца вывад: патрэбна перавыданне "Грабнога слаламу". І тут выявілася, што пакуль яго не будзе.

Нядаўна аўтар атрымаў патэнт на выданне часопіса. Ён будзе ахопліваць пытанні развіцця не толькі грабных відаў спорту, але і водныя лыжы, і спаборніцтвы яхтсменаў, і многае іншае.

**Яўген ІВАНОЎ.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# УПЕРШЫНЮ

У беларускай пошты і філатэлістаў цяпер усе выпускі новыя, і да ўсіх гэтых выпускаў падыходзіць слова — упершыню.

Выдадзены першы канверт беларускай пошты да юбілею аднаго са старажытных гарадоў рэспублікі. Горад на Сожы — Гомель адзначыў у верасні сваё 850-годдзе. На малюнку канверта адна з вуліц горада і надпіс у рамцы з беларускага арнамента — "Гомелю 850 гадоў". Амаль у гэты ж час адзначаў сваё 850-годдзе другі горад — Рагачоў. І да гэтага юбілею быў выдадзены канверт. Але на "рагачоўскім" канверце яшчэ марка з надпісам "Пошта СССР", а на "гомельскім — марка з "Пагоняй" і надпісам "Беларусь". У гонар юбілеяў на паштамтах абодвух гарадоў праводзілася спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі юбілейнымі штэмпелямі. Абодва штэмпелі маюць надпіс "Рэспубліка Беларусь". Гэта першыя спецыяльныя штэмпелі з такімі надпісамі, якія скарыстоўваліся за межамі сталіцы рэспублікі.

Я ўжо паведамляў у сваіх матэрыялах, што ў 1989—1991 гадах Міністэрства сувязі СССР па заказу пошты Беларусі выпусціла тры канверты з адлюстраваннем старажытнага герба Беларусі — "Пагоні" і гербаў старажытных гарадоў рэспублікі. На гэтых трох канвертах яшчэ была надрукавана марка з надпісам "Пошта СССР". Міністэрства сувязі рэспублікі прадоўжыла гэтую цікавую гербавую серыю канвертаў. Нядаўна паступіў у паштовае абарачэнне канверт, на малюнку якога паказаны шэсць старадаўніх гербаў гарадоў і мястэчак Беларусі. Адны з іх, як Быхаў, Лепель, Сураж, больш вядомыя, іншыя — Радунь, Гародная і Прывалка — менш. Аўтар гэтага канверта вядомы беларускі гісторык-геральдыст А.Цітоў, перамалёўку афармляў мастак А.Каршуноў (ён жа маляваў і папярэднія два канверты з гербамі).

Старажытны Быхаў вядомы з XIV стагоддзя. У 1781 годзе ў горада з'явіўся герб — на чырвоным полі дзве перакрыжаваныя чыгунныя гарматы. Першыя даныя аб Лепелі адносяцца да 1439 года, калі сяло Стары Лепель было падаравана віленскаму касцёлу. Герб Лепеля — сярэбраны яздок на чырвоным полі, атрыманы ў 1852 годзе, увенчаны гарадской каронай. Сураж быў заснаваны ў 1564—1565 гадах. На гербе горада — крапасная сцяна з трыма вежамі. Сёння Сураж — гарадскі пасёлак у Віцебскай вобласці.

Аб вёсцы Прывалка, што ў Гродзенскай вобласці, сёння мала хто ведае ў рэспубліцы. Але гэта старадаўняе сяло вядомае ў летапісах з XVI стагоддзя і ў 1792 годзе атрымала свой герб. Вёска Гародная ўпамінаецца ў гістарычных дакументах пад 1448 годам. Цяпер гэта цэнтр сельскага Савета ў Столінскім раёне на Брэстчыне. Герб з адлюстраваннем лася з залатымі рагамі быў пацверджаны ў 1792 годзе. Герб Радуні з адлюстраваннем чырвонага рака таксама быў пацверджаны ў 1792 годзе. Гарадскі пасёлак Радунь вядомы з 1387 года. Сёння гэта цэнтр пасялковага Савета і калгаса "Радунскі" ў Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці. Тры гэтыя гербы зацверджаны ці пацверджаны ў 1792 годзе — значыць канверт выдадзены як бы да 200-годдзя іх існавання.

І яшчэ аб адным канверце, выдадзеным поштай рэспублікі, я б хацеў расказаць. На ім змешчаны партрэт жанчыны, імя якой вядома далёка за межамі нашай рэспублікі. Гэта З.Тусналобава-Марчанка, ураджэнка Віцебшчыны, ганаровы грамадзянін Полацка, Герой Савецкага Саюза. У гады апошняй вайны старшына медыцынскай службы З.Тусналобава вынесла з поля бою 128 раненых, адна з нямногіх ваенных медыцынскіх сясцёр у былым Савецкім Саюзе, узнагароджаная медалём Міжнароднага Чырвонага Крыжа імя Флорэнс Найтынгейл. У лютым 1943 года атрымала цяжкае раненне, абмарожана, страціла рукі і ногі. Словам і справай працягвала змагацца з акупантамі.

**Леў КОЛАСАЎ.**



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 112.
Падпісана на друку 25.01.1993.